**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 39 (755) 25 верасня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by


Аўтакрама прыехала ў Гірстуны.

На вясковай вуліцы ў Гірстунах, ля вызначанага прыпынку аўтакрамы, сабралося з дзясятак пакупнікоў, якія чакалі пад'езду аўтакрамы.

– А чаму вашая вясковая крама не працуе?– пытаю ў тубыльцаў,– вёска ж – вялікая!

– А хто пойдзе за такі заробак працаваць!– тлумачыць кабета сталага ўзросту. – Маладыя не хочуць! Ды і ўсе маладыя працуюць у Глыбокім, маюць свае машыны, затавarваюцца ў горадзе. Для іх нашая крама не патрэбная, бо рана едуць на працу, калі яна яшчэ не адчыненая, а прыязджаюць з працы – калі ўжо зачыненая. А нам, пенсіянерам, аўтакрама – самы раз.

Гэта быў чацвер. Гандлёвы дзень! Падобную аўтакраму мы яшчэ сустрэлі і ў вёсцы Ласіца Казлоўская (Пастаўскі раён).

*Фота Уладзіміра Скрабатуна.*

## Віцебская вобласць

# З яек на вобласць

■ Станіслаў Раманчук

**У сярэдзіне верасня айчынныя СМІ паведамілі аб тым, што ў адстаўку адправілі Мікалая Дамашкевіча з адказнай пасады прэзідэнцкага памочніка і галоўнага інспектара па Віцебскай вобласці.**

У Прыдзвінні ён адпрацаваў амаль чатыры гады, а перад гэтым на працягу нават 9 гадоў даволі плённа кіраваў Мінскай вобласцю, потым з'яўляўся ўпраўляючым справамі прэзідэнцкай адміністрацыі. У кожным рэгіёне краіны пасада памочніка – даволі значная, бо ён дэталёва адсочвае ход спраў у вобласці і інфармуе аб гэтым кіраўніка дзяржавы. Праўда, гэта адстаўка не выклікала асабліва пытанняў, бо той жа М. Дамашкевіч ужо даволі немалады чалавек, ён нарадзіўся ў 1949 годзе на Гомельшчыне. Для грамадзян, якіх хвалюе стан грамадскіх спраў, больш цікава, што яму на змену прайшоў гаспадарчы дзеяч і таксама цёзка Мікалай Шарстнёў. Перад пераводам на Віцебшчыну ён узначальваў адну з буйнейшых у Беларусі першую сталічную птушкафабрыку, найбольшага вытворцу курыных яек. Таксама новы прэзідэнцкі памочнік кіраваў і айчынным аб'яднаннем "Белптушкапрам". Палітолагі звярнулі ўвагу, што ў пэўнай ступені такое прызначэнне не выпадковае. Напярэдадні адстаўкі М. Дамашкевіча ў сферы птушкагадоўлі адбылася гучная справа. На нечарговую сесію збіралася верхняя палата беларускага парламента і дала згоду на арышт сенатара, дырэктара Віцебскай бройлернай фабрыкі, кандыдата навук Ганны Шарэйка. Праўда, цяпер ідуць размовы, што за гэтым затрыманнем стаяць канкурэнты і жанчына пацярпела за тое, што сумленна рабіла сваю справу лепш за іх.

## Пастаўскі раён

# Завод новы – праблемы старыя

■ Кастусь Александровіч

**Амбіцыйныя планы айчынных упраўленцаў усё часцей сутыкаюцца з суровымі рэаліямі жыцця.**

Вось і маштабная праграма мадэрнізацыі па даручэнні кіраўніка краіны льнаводчай галіны адчула пэўныя праблемы. Яшчэ напрыканцы года летась гаварылася, што ў першай палове года сёлета будуць закончаны такія работы на двух льнозаводах вобласці – Пастаўскім і Арэхаўскім. На справе тэрміны здачы іх у эксплуатацыю пасля аснашчэння найноўшымі тэхналагічнымі лініямі ўжо некалькі разоў пераносіліся. На заводзе ў Паставах нарэшце вырашылі запусціць новую вытворчасць 1 кастрычніка, калі сюды пачалі завозіць сыравіну новага ўраджаю. Праўда, тут падчас пусканаладчных работ на працягу паўмесяца не было ніводнага дня, каб не выходзіла са строю альбо ламалася нешта з абсталявання бельгійскай вытворчасці. Спецыялісты трывожацца, што гэта лінія, адзіная закупленая ў Бельгіі, не надта ўдалая, у адрозненне ад французскіх, працуючых у Беларусі. Але ж з цягам часу, магчыма, удасца развязаць усе тэхналагічныя няўвязкі. Іншая справа, як выйсці за вадчанам на даходную дзейнасць, каб новы па-сутнасці завод, пабудаваны побач са старым, стаў працаваць рэнтабельна і акупіў сябе з цягам часу. Для заходняй тэхнікі патрэбна ў першую чаргу якасная льнотраста і пажадана высокіх нумароў. Аднак у нас большасць гаспадарак ужо развучыліся нядрэнна вырошчваць даўгунец. На самім жа Пастаўскім льнозаводзе першыя партыі "зялёнага шоўку" новага ўраджаю прымаліся сярэднім нумарам крыху вышэй адзінкі. Як выхад - горшы лён будзе перапрацоўвацца і на старой вытворчасці. Дарэчы, раней у Прыдзвінні дзейнічала нават 20 льнозаводаў, роўна палова з іх спыніла сваю дзейнасць. Мінулі тыя часы, калі лён быў сапраўдным "манетным дваром" кожнага калгаса, на ім усе добра зараблялі, хоць болей было ручной працы.

## Полацкі раён

# Чарка даражэй аўто

■ Чэслаў Якубовіч

**Толькі першы год дзейнічаюць у Беларусі даволі суровыя меры ўздзеяння на вадзіцеляў за язду ў нецвярозым стане.**

І калі спачатку такія многія такія гора-кіроўцы крыху задумаліся аб наступствах такой язды, то цяпер стала расці колькасць парушальнікаў закона. Аб гэтым нядаўна гаварылася падчас выязнога судовага пасяджэння, якое правялі ў Наваполацку ў памяшканні заводаўпраўлення завода "Палімір". У ролі падсуднага апынуўся малады апаратчык цэха № 303 К. Гэты хлопец толькі ў пачатку года купіў сабе жаданую патрыманую іншамарку BMW. У адзін з веснавых дзён ён выпіў 2 літры піва і вырашыў пад'ехаць да крамы, каб купіць яшчэ пеннага напою. На сваю бяду на адной з АЗС горада малады вадзіцель быў затрыманы супрацоўнікамі ДАІ, а медабследванне выявіла наяўнсць у крыві нават 2 праміле алкаголю. За свой учынак слесар на першы раз атрымаў штраф у памеры 12 млн. рублёў, яго пазбавілі таксама і вадзіцельскіх правоў. Аднак ніякіх высноў для сябе навапалачанін не зрабіў і ўсяго праз некалькі тыдняў пасярод ночы на лёгкім падпітку рызыкнуў паехаць у суседні Полацк. На пад'ездзе да горада яго спыніў для праверкі дзяжурны экіпаж ДАІ. Зноў быў складзены пратакол, а па новым заканадаўстве пакаранне стала суровым. У маладога завадчаніна канфіскавалі не толькі яго машыну. Яму яшчэ пашчасціла, што не адправілі за краты альбо на пасяленне. Але і наступныя 2 гады стануць папраўчымі работамі з пералічэннем ў даход дзяржавы пятай часткі заработку. На працягу 5 гадоў суд забараніў таксама займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартнымі сродкамі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 25.09.14 | | | | Пятніца 26.09.14 | | | | Субота 27.09.14 | | | | Нядзеля 28.09.14 | | | | Пн.29.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +6 | +13 | +6 | +5 | +9 | +14 | +7 | +6 | +11 | +16 | +9 | +7 | +10 | +16 | +10 | +9 | +11 | +14 |
| Ціск | 747 | 748 | 746 | 745 | 745 | 746 | 747 | 747 | 746 | 744 | 745 | 747 | 748 | 751 | 751 | 751 | 751 | 752 | 751 |
| Вільготнасць | 86 | 85 | 54 | 78 | 86 | 100 | 77 | 94 | 99 | 100 | 58 | 79 | 91 | 96 | 65 | 87 | 95 | 100 | 83 |
| Вецер м/сек | 2 Ю-З | 3 Ю | 5 Ю | 4 Ю | 4 Ю | 4 Ю-З | 2 Ю-З | 2 Ю-З | 4 Ю-З | 5 Ю-З | 8 С-З | 6 З | 6 З | 6 З | 7 З | 6 З | 5 З | 5 З | 4 З |

# Аб самым надзённым

## ПРАЗ ПАРУ ГАДОЎ БЕЛАРУСЫ МОГУЦЬ ПАЧАЦЬ ПОЎНАСЦЮ АПЛОЧВАЦЬ ЖЫЛЛЁВА-КАМУНАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ



■ Аляксандр Цішкевіч

**А вось з іншай прапановай Саўміна РБ аб поўным пераходзе насельніцтвам з 2017 года аплаты 100 % затрат ЖКГ, як паказвае практыка, можа і не атрымацца на практыцы. Справа ў тым, што такі крок – даволі адчувальны для многіх слаёў насельніцтва.**

На працягу даволі працяглага часу ў нашай краіне ганарацца сваім нібыта стабільным становішчам у многіх сферах жыцця. Сапраўды, амаль нічога ў нас не мяняецца, як нідзе на постсавецкай прасторы многае захавалася з ранейшых савецкіх парадкаў і традыцый, хоць на двары ўжо XXI стагоддзе. Вось і ў пачатку восені паведамілі, што ўзровень зарэгістраванага беспрацоўя стабільна захоўваўся на ўзроўні 0,5 % ад эканамічна актыўнага насельніцтва, такая тэндэнцыя назіраецца на працягу ўжо 18 месяцаў запар.

Праўда, афіцыйнай статыстыцы асаблівага даверу няма, бо вядома, што мільён, а то і болей беларусаў пастаянна знаходзяцца на заробках за мяжой. Пры гэтым дзіўная рэч, ніхто не хоча з суайчыннікаў запаўняць існуючыя амаль 55 тысяч працоўных вакансій у цэнтрах занятасці, большасць з якіх рабочыя прафесіі. Сітуацыя ж у рэальнай эканоміцы не вельмі спрыяльная, пра што сведчыць хоць бы няспынны рост курсу замежных валют у адносінах да беларускага рубля, а ў многіх вытворцаў узніклі праблемы з рэалізацыяй сваёй прадукцыі.

На гэтым фоне ўпраўленцы беларускага ўрада, якому кіраўнік дзяржавы пастаянна пагражае жорсткімі разборкамі і нават адстаўкай, напрыканцы лета актывізаваліся і ўнеслі некалькі даволі грунтоўных прапаноў аб тым, як будзе развівацца наша краіна надалей. Адну з іх, як вядома, А. Лукашэнка падтрымаў паблізу вёскі Вішнёўка, на адной з будаўнічых пляцовак 2-й кальцавой аўтамабільнай дарогі вакол беларускай сталіцы. Ужо зараз у Мінску ў асаблівыя дні на МКАД-1 ездзіць няпроста, на ёй у суткі перамяшчаецца 120 тысяч аўтамабіляў і грузавікоў.

Каб пазбегнуць праблем яе перагружанасці, беларускі лідар даручыў да пачатку 2017 года пабудаваць яшчэ адну МКАД высокага класа працягласцю 160 км па новай тэхналогіі ўкладкі бетонна-цэментнага пакрыцця. Гэта будзе даволі няпростае заданне, бо ўзводзіць сучасныя аўтамагістралі каштуе вельмі дорага, а наша краіна – не супер багатая на кантыненце, вымушана лічыць кожны долар. Па разліках беларускага лідара, гэта таксама дазволіць болей загрузіць нашы цэментныя заводы і накіроўваць дарожнікам да 10 % іх гатовай прадукцыі.

Прэзідэнта пакуль не задавальняюць тэмпы правядзення дарожных работ і ён не стаў слухаць пярэчанні спецыялістаў галіны аб хуткім наступленні халадоў і недахопе фінансавых сродкаў. Хутчэй усяго, "імем рэвалюцыі" новую кальцавую трасу вакол Мінска ў далейшым пачнуць будаваць шпарчэй, а наша краіна пачне шукаць новыя дадатковыя замежныя крэдыты на гэты праект у кітайцаў, а таксама ў Сусветнага банка, бо тая ж Расія цяпер з-за санкцый Захаду мае пэўныя фінансавыя цяжкасці.

А вось з іншай прапановай Саўміна РБ аб поўным пераходзе насельніцтвам з 2017 года аплаты 100 % затрат ЖКГ, як паказвае практыка, можа і не атрымацца на практыцы. Справа ў тым, што такі крок – даволі адчувальны для многіх слаёў насельніцтва, бо ці пацягне сям'я звычайнага пенсіянера, альбо бюджэтніка адразу затраты пад 2 і болей млн. рублёў у месяц, што ж тады застанецца на жыццё пры высокіх цэнах на прадукты і тавары.

Сёлета беларусы, па афіцыйных дадзеных, пакрывалі ўстаноўленымі тарыфамі на аплату толькі каля трэці рэальных затрат камунальшчыкаў. Кіраўнік дзяржавы стаіць на сваім і патрабуе, каб людзі аплочвалі кватэрплату ў памеры не больш за 5 долараў з наступнай індэксацыяй разам з ростам заробкаў. Раней ва ўрада Беларусі былі планы ў 2015 годзе выйсці на ўзровень 60 % аплаты затрат ЖКГ, а па некаторых пазіцыях (аплата электраэнергіі) тарыфы прадугледжвалі 100 % кошту затрат. За нас кампенсаравалі затраты па павышаных тарыфах вытворцы, што зніжала іх канкурэтназдольнасць на знешніх рынках збыту.

Ды і замежныя спецыялісты, эксперты МВФ і нават Антыкрызіснага фонда ЕўрАзЭС рэкамендавалі нам павышаць для насельніцтва камунальныя тарыфы, каб пазбегнуць праблем у эканоміцы. Беларусь на гэта не пайшла і тыя ж рускія нам з канца 2013 года замарозілі выдачу апошняга гранту ў памеры каля паўмільярда долараў. Праўда, у Беларусі аб'явілі аб пачатку маштабнай рэформы жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Такія меры, сапраўды, неабходныя, бо да прыкладу у ацяпляльны перыяд адзін Мінск павінен у суткі траціць 3 млн. долараў толькі на ацяпленне свайго жылфонда.

Хутчэй усяго, праз два гады сітуацыя ў айчыннай эканоміцы не зменіцца і адпаведна нізкі ўзровень даходаў беларусаў проста не дазволіць нам перайсці да такіх радыкальных мер, хоць у гэтым накірунку неабходна ісці, вучыцца ўсім лічыць расходы і жыць па сродках. Пакуль наш урад абяцае таксама, што кошт дзяржаўнага арэнднага жылля будзе ў 2 разы ніжэй аплаты здымнага прыватнага жылля. Праўда, у беларускай сталіцы арэндная кватэра будзе каштаваць ад 180 да 250 USD у залежнасці ад яе плошчы, а 3-пакаёўка пацягне для маладой сям'і ўжо 310-315 долараў штомесяц.

## Дзень за днём

**Расія некалькі разоў вярнула ў Беларусь яе малочную, мясную прадукцыю, гародніну і нават грыбы. Курс долара пераадолеў новую псіхалагічную вышыню 10500 рублёў. ЗША пахвалілі Беларусь за яе ўзважаную пазіцыю ва ўкраінскім пытанні. Па выніках атэстацыі айчынны будаўнічы рынак пакінулі сотні кампаній. У Беларусі плануюць дазволіць продаж жылля ў лізінг. З 1 кастрычніка падаражэў праезд па беларускіх платных дарогах, пачалася вакцынацыя насельніцтва супраць грыпу. У канцы снежня беларусы без віз могуць ездзіць у Ізраіль.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** З-за ціску на Украіну пасли краін Еўрасаюза ўзгаднілі новы пакет сектаральных санкцый супраць Расіі, рускі рубль адразу ўпаў, найбольш моцна пацярпела "Раснафта".

**ЗША**. Б. Абама адмовіўся ўводзіць войскі ў Ірак для барацьбы з ісламістамі, але паабяцаў магутнымі ўдарамі авіяцыі і падтрымкай сіл партнёраў знішчыць усіх фанатыкаў-баевікоў.

**Германія.** Нямецкі канцлер А. Меркель зноў нагадала прэзідэнту РФ У. Пуціну аб неабходнасці вываду расійскіх войск з Украіны для ўстанаўлення міру ў Данбасе.

**Кітай.** Па тэлебачанні паказалі запуск новай кітайскай мадэрнізаванай версіі комплексу супраць паветранай абароны "Хунцы-10", яго выпускаюць па расійскай ліцэнзіі.

**Польшча.** Без тлумачэння прычын "Газпрам" на 45 % зменшыў пастаўкі газу ў краіну, палякі спынілі рэверсныя пастаўкі паліва ва Украіну, ідзе ціск на Славакію, Германію.

**Расія.** Газета "Новые Известия" апублікавала матэрыял аб фактах гібелі 90 расійскіх салдат і афіцэраў пад Данецкам і Луганскам, Мінабароны РФ на гэта не адрэагавала.

**Украіна.** Многія украінцы абурыліся заявай главы МЗС РФ С. Лаўрова, што яны хочуць голадам змарыць Данбас, бо Крэмль арганізаваў у 1932 г. Галадамор, гібель 3 млн. людзей

**Латвія.** Калі на ўсходзе краіны з'явяцца, як у Крыме , "зялёныя чалавечкі" са зброяй, як заявіў міністр абароны Раймананд Веёніс, то спецпадраздзяленні іх адразу будуць знішчаць.

**Венесуэла.** За 8 месяцаў года рост цэн дасягнуў ужо 64 % і стаў самым высокім на кантыненце, людзі не могуць свабодна купіць муку, малако і нават туалетную паперу.

**Германія.** Кампанія Opel распрацавала навінку – танны бюджэтны аўтамабіль для Еўропы Viva коштам да 11 тысяч $, продаж новага хэтчбека пачнецца вясной 2015 года.

**Францыя.** Парыжскі суд апраўдаў 9 актывістак скандальнага руху Femen, з іх знялі абвінавачванні паліцыі ў пашкоджанні звона сабора Парыжскай Бога Маці.

**Грузія.** У горадзе Душэці 45-гадовы прэзідэнт Г. Маргвелашвілі зноў ажаніўся ў другі раз і аформіў шлюб з каханкай-мастачкай, з якой даўно жыў у грамадзянскім шлюбе.

**Канада.** Ранні снегапад на працягу двух сутак пасля спёкі пакінуў без святу шмат жыхароў горада Калгары і ваколіц, паваліў сотні дрэў, былі закрыты дзясяткі школ.

**Швейцарыя.** Стан здароўя знакамітага аўтагоншчыка М. Шумахера палепшыўся, яго выпісалі з клінікі Лазанны дамоў для далейшага працяглага лячэння траўмы галавы.

**Іран.** На 2 месяцы пасадзілі ў турму 25-гадовую дзяўчыну толькі за спробу прайсці ў Палац спорту і паглядзець матч мужчынскіх валейбольных зборных Ірана з Італіяй.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Холдынг электронікі "Гарызонт" звольніў дырэктара асноўнага завода па вытворчасці бытавой тэхнікі, які стаў стратным, на заводзе пачасціліся прастоі, вы**раслі даўгі.**

**Маладзечна.** З-за фінансавых праблем у будаўнічым холдынгу "Забудова" з чатырох яго заводаў застаўся працаваць толькі дрэваапрацоўчы, вялікія даўгі ў заказчыкаў.

**Кобрын.** Акрамя рашэння аб узвядзенні 2-й кальцавой дарогі вакол Мінска А. Лукашэнка загадаў развіваць адсюль транзітную трасу на Гомель, шукаць крэдыты на яе.

**Баранавічы.** Мясцовы жыхар скраў 20 бутэлек гарэлкі і паспеў іх выпіць да затрымання, яшчэ адзін мужчына заснуў на рэльсах, трапіў пад поезд, але цудам выжыў.

**Мінск.** Перспектывы Расіі, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, змрочныя, калі яна рашыцца на новую халодную вайну з Захадам, услед за ёй ля разбітага карыта апынецца і наша Беларусь.

**Брэст.** Адзін з гараджан ахвяраваў 14 мільёнаў рублёў на дапамогу бежанцам з Украіны, па краіне расце паток дапамогі цёплым адзеннем і абуткам людзям, трапіўшым у бяду.

**Астравец.** На ўзводзімай Беларускай АЭС рыхтуюцца прыняць у сярэдзіне кастрычніка групу экспертаў Міжнароднага агенства па атамнай энергіі (МАГАТЭ).

**Гродна.** Праверка гандлёвай інспекцыі Міністэрства гандлю РБ выявіла ў адным з магазінаў горада 57 найменняў пратэрмінаваных тавараў, краму часова закрылі.

**Мінск.** У сваёй вытворчасці "Амкадор-Белвар" пачаў выпуск прататыпаў карпусоў з дапамогай тэхналогіі 3D прынтараў, яна шырока выкарыстоўваецца ў ЗША і ЕС.

**Жодзіна.** Услед за адной дзеючай крамай да канца года гандлёвая сетка "Еўраопт" адкрые ў горадзе свой новы гандлёва-забаўляльны цэнтр і яшчэ два супермаркеты.

**Светлагорск.** Дырэктар СШ № 10 звольніла з працы пераможцу раённага конкурсу "Настаўнік года" А. Маслюкову са стажам 27 гадоў, якая раптам стала "ненадзейнай".

**Жлобін.** У выніку пажару на ферме сельгаспрадпрыемства "Папаратнае" загінулі 26 цялят, у самім раённым цэнтры міліцыя злавіла злодзея, які спрабаваў схавацца ў шафе для адзення.

**Мінск.** Поўнасцю знеслі і зраўнялі з зямлёй яшчэ новы аўтавакзал "Маскоўскі", гэты ўчастак сталіцы пажадаў прыдбаць сабе расійскі манапаліст "Газпрам".

**Уручча.** Пасля месяца пошукаў 120-я асобная гвардзейская механізаваная брыгада знайшла і затрымала свайго беглага 22-гадовага сержанта, прызыўніка з Лагойшчыны.

**Лоеў.** Амаль гадзіну рыбак на Дняпры выцягваў спінінгам монстра – 58-кілаграмовага сама, пасля фотаздымка на памяць рыбу-гігант адпусцілі назад у раку.

# Памер дарожнай пошліны ў Беларусі для пенсіянераў і інвалідаў плануецца знізіць на 50%



■ Кацярына Марковіч, БЕЛТА

**У Беларусі памер дзяржаўнай пошліны за допуск аўтамабіляў да ўдзелу ў дарожным руху плануецца знізіць на 50% для пенсіянераў і інвалідаў I і II групы. Пра гэта паведаміў карэспандэнту БЕЛТА намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па жыллёвай палітыцы і будаўніцтву Леанід Кавалевіч.**

Дзяржпошліна ўведзена ў краіне з 1 студзеня 2014 года, яе плацельшчыкамі прызнаныя ўсе ўладальнікі транспартных сродкаў - фізічныя асобы і юрыдычныя асобы. «Такім чынам мы парушылі правы тых катэгорый грамадзян, якія маюць права на льготы. Сярод іх пенсіянеры, інваліды, маламаёмасныя, якіх прыраўнялі да астатніх пры праходжанні тэхагляду іх транспартнага сродку. Практыка прымянення гэтай нормы паказала, што на гэтую катэгорыю грамадзян неабходна звярнуць увагу і наўсці ім на сустпкі », - адзначыў дэпутат.

У сувязі з гэтым, па словах Леаніда Кавалевіча, пры падрыхтоўцы праекта закона «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2015 год» вывучаецца пытанне аб магчымасці зніжэння для пенсіянераў, інвалідаў I і II групы памеру дзяржпошліны на 50%. «Зразумела, што сысці цалкам ад выплаты дзяржаўнай пошліны нельга, кожны павінен уносіць сваю лепту ў абслугоўванне дарожнай гаспадаркі краіны і ўтрымання дарог. Іадмовіцца, напрыклад, ад праходжання тэхагляду таксама немагчыма, так як машына абавязкова павінна быць у спраўным стане », - падкрэсліў ён.

Льготы ў выглядзе зніжэння памеру дарожнай пошліны на 50% могуць атрымаць і юрыдычныя асобы, якія займаюцца перавозкай небяспечных грузаў. Заканадаўча яны абавязаны ажыццяўляць тэхнічны агляд свайго транспартнага сродку адзін раз у паўгода, такім чынам, яны ўносяць плату за допуск да ўдзелу ў дарожным руху два разы ў год у поўным аб'ёме. «Таксісты таксама павінны прадстаўляць сваё аўто для праходжання тэхагляду адзін раз у паўгода, так як яны перавозяць пасажыраў і абавязаны забяспечваць неабходную бяспеку. На маю думку, для гэтай катэгорыі таксама варта было б прадугледзець пэўныя паслабленні, аднак гэты момант у законапраекце не прапісаны », - сказаў парламентарый.

Леанід Кавалевіч лічыць, што, акрамя льгот, для пэўных катэгорый грамадзян мэтазгодна прадумаць крытэрыі вызначэння памераў дзяржпошлін, так як не ўсе грамадзяне штодня карыстаюцца сваімі машынамі, а ўносяць транспартны збор прыходзіцца ўсім аднолькава. У цяперашні час стаўкі дзяржпошліны ўстаноўлены ў базавых велічынях з дыферэнцыяцыяй у залежнасці ад выгляду транспартнага сродку, а таксама ў залежнасці ад дазволенай максімальнай масы транспартнага сродку.

«Рашэнне скараціць памер дарожнай пошліны для пенсіянераў, інвалідаў, а таксама для юрыдычных асоб, якія займаюцца перавозкай небяспечных грузаў, цяпер на ўзроўні прапаноў у законапраекце. Ці будуць гэтыя нормы падтрыманы, пакуль не вядома. На восеньскай сесіі праект закона «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2015 год» паступіць у Палату прадстаўнікоў і будзе разгледжаны дэпутацкім корпусам », - паведаміў Леанід Кавалевіч.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З афіцыйным двухдзённым візітам вобласць наведалі члены пасольстваў, акрэдытаваных у Беларусі і прадстаўнік ААН па справах бежанцаў Жан Ів Бушардзі.

**Орша.** У гандлёвую сетку Беларусі паступілі новыя вырабы з жакардавых тканін мясцовага льнокамбіната – асеннія паліто і жакеты з калекцыі "Льняная рапсодыя".

**Наваполацк.** Ад зніжэння паставак на экспарт нафтапрадуктаў ААТ "Нафтан" і Мазырскага НПЗ Беларусь недаатрымала амаль 200 мільёнаў долараў у параўнанні з 2013 годам.

**Віцебск.** Амаль 4 гады адпрацаваў да сваёй адстаўкі на пасадзе памочніка прэзідэнта Беларусі – галоўнага інспектара па Віцебскай вобласці 65-гадовы Мікалай Дамашкевіч.

**Верхнядзвінск.** Да 2016 года Беларуская і Латвійская чыгункі дамовіліся пашырыць яшчэ з участкі прыгранічнага руху, на перагоне Бігосава-Індра ўжо пачаў дзейнічаць 2-гі пуць.

**Паставы.** Для 22 кацельных райкамунгас стварыў запасы дроў і шчапы для новага ацяпляльнага сезона на цэлы год працы, пачалі будаваць новую лазню ў райцэнтры.

**Глыбокае.** На працягу трох дзён на тэрыторыі раёна праходзілі комплексныя вучэнні сіл і сродкаў грамадзянскай абароны ў выпадку магчымых надзвычайных здарэнняў.

**Орша.** Да 5 гадоў турмы пагражае 45-гадоваму мярзотніку, які моцна збіў пенсіянера, калі той заступіўся за дзяўчыну, якую злачынца хацеў днём згвалціць і пачаў душыць.

**Полацк.** У адпаведнасці з Указам № 433 горад з суседнім Наваполацкам сталі новымі прыгранічнымі гарадамі з рэжымам прыгранічнай тэрыторыі з дагляданм нават машын.

**Віцебск.** Мясцовы аэрапорт разам з кампаніяй "Белавія" паспяхова выканаў праграму летніх чартэрных рэйсаў у Турцыю, самалётамі "Boeinq-737" перавезлі 3,2 тысячы турыстаў.

**Талачын.** Паблізу трасы на Сянно добраўпарадкавалі тэрыторыю вакол святой крыніцы ля былой царквы, разбуранай у 1960 годзе, з'явілася капліцка і быў устаноўлены крыж.

**Лепель.** У мясцовым краязнаўчым музеі адкрылася выстава шэдэўраў жывапісу з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі ў жанры нацюрморта.

**Мёры.** Да 500-годдзя райцэнтра федэрацыя футбола Беларусі сумесна з фірмай "НТС" адкрыла 28-е па ліку ў краіне міні-футбольнае поле, яшчэ адно поле адкрылі ў Сянно.

**Віцебск.** З нагоды 45-годдзя славутай групы "Машина времени" А. Макарэвіч сёння дасць канцэрт у Летнім амфітэатры, у самой Расіі ідзе ягоная траўля, канцэрты адмяняюць.

**Лепель.** Двое ігракоў мясцовага "Юнацтва" І. Хацееў і К. Круглоў сталі лепшымі ў фінале рэспубліканскага турніру "Скураны мяч" па элементах тэхнікі футбола і фізпадрыхтоўцы.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# На Глыбоччыне памятаюць аб ахвярах Халакосту

***Як памятаюць і тое, што Глыбокае, Зябкі, Празарокі, Пліса і Галубічы былі колішнімі яўрэйскімі мястэчкамі. Гэты гістарычны перыяд знайшоў сваё адлюстраванне ў музеях Глыбокага, Празарок і Плісы, а таксама ў забудове згаданых паселішчаў.***

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Нядаўна прадстаўнікі Рэспубліканскага Фонду Халакост з Магілёва наведалі Глыбоччыну. Іх цікавіла не толькі захаванасць і добраўпарадкаванасць месцаў масавага генацыду яўрэйскага насельніцтва, але збор новых успамінаў аб тых ужо далёкіх падзеях, удакладненне пэўных фактаў.**

У склад групы ўваходзілі: Іда Шэндаровіч, Аляксандр Ліцін і Аляксандр Сомаў. Паўдзельнічаць у паездках па Глыбоцкім раёне запрасілі і аўтара гэтых радкоў. Натуральна, маючы навігатар, група магла абысціся і без мяне. Аднак, гасцей цікавілі і жывыя сведкі тых далёкіх падзеяў, а тут, якраз, і патрэбная дапамога краязнаўцаў на месцы. Як знайсці такіх, хто яшчэ памятае тыя трагічныя часы, калі жыхароў нашага краю, яўрэяў, акупанты знішчалі толькі за тое, што яны – яўрэі? Вельмі паспрыяў у гэтым аповяд Яніны Бацяноўскай з вуліцы Інтэрнацыянальнай. Яна добра памятае глыбоцкае гета, хоць ёй у часы яго знішчэння было ўсяго 13 гадоў. Спадарыня Яніна акрэсліла межы гета, назвала колькі прозвішчаў сваіх знаёмых яўрэйскай нацыянальнасці, згадала імёны сябровак.

Хадзіць у гета было небяспечна, нават за размову з яўрэямі маглі расстраляць. Аднойчы спадарыня Яніна за гэта была затрымана, але пашанцавала, паліцыянты адпусцілі. Аднойчы п'яны паліцыянт нечакана прагаварыўся – ёсць загад неўзабаве знішчыць насельнікаў глыбоцкага гета. Яніна пайшла ў гета і, мінаючы сваіх знаёмых, як бы не знарок, не паварочваючы твару, не галасна, казала: "Ратуйцеся, вас будуць расстрэльваць! Папярэдзьце ўсіх!" Праўда, на папярэджанні, чамусьці, адрэагавалі толькі адзінкі, якія сышлі ў лес. Асабліва шчыльнага кантролю за гета не было ж. – І не зразумела: чаму большасць выбрала смерць? Можна ж было сысці з гета і ўратавацца,– разважала Яніна Бацяноўская. Дарэчы, па словах Яніны Бацяноўскай, уваход у гета быў на месцы сённяшняга супермаркета "Цэнтральны".

У Глыбокім прадстаўнікі Фонду наведалі мемарыялы па вул. Чкалава, а таксама ў раёне колішняга аэрапорта і Беразвецкага бору, ды старыя могілкі, што каля надзельнага рынку. Далейшы шлях – у Празарокі. Тут, ля вышкі, што пры шашы Полацк-Вільня – помнік ахвярам Халакосту, колішнім жыхарам Празарок. Ніхто з яўрэяў Празарок не ацалеў, расстралялі ўсіх да рэшты.




**Празарокі. Школьны музей. Старая шыльда з дома, дзе жыў Антон Шантар.**

У Празароках захавалася местачковая забудова, дзе раней, у гэтых дамах, пераважна пражывалі яўрэі. Шкада, з году ў год, такіх прыгожых дамоў становіцца ўсё меней. Іх зносяць з-за спарахнеласці. А можна ж было аднавіць у дакладнай копіі. Празарокі губляюць сваю адметнасць. Не хочуць Празарокі быць цэлай сцэнічнай пляцоўкай часоў Ігната Буйніцкага. Ну хоць бы для штогадовага фэсту тэатральнага мастацтва, які тут варта было б праводзіць.

У Празароцкай школе, па папярэдняй дамоўленасці, ужо чакалі. Змястоўную экскурсію правяла настаўніца гісторыі Марыя Адольфаўна Сулімава. Яўрэйская тэматыка ў музеі прысутнічае, хоць асноўная яго экспазіцыя, безумоўна, прысвечаная бацьку беларускага тэатру Ігнату Буйніцкаму.

На бачным месцы – старая вулічная шыльда, дзе напісана – "Ul. Odrodzenia, №26 Antoni Szanter".

*– А што Шантар – яўрэйскае прозвішча?*– задае пытанне аўтар гэтых радкоў.

*– У нас на Глыбоччыне – Шантар, Шайтар – не такія ўжо рэдкія прозвішчы і цяпер, ёсць пад Глыбокім нават вёска Шантараўшчына.*

– Так!– сцвярджальна кажа Іда Шэндаровіч, – яўрэйскія.

*– То, тады, каго не скубані на Глыбоччыне – кожны на палову яўрэй, хоць па пашпарту і – беларус!*

– Больш таго,– прагявае Іда,– усе, хто мае прозвішча Півавар – яўрэі! Самае сапраўднае яўрэйскае прозвішча, бо яўрэям раней належалі бровары, дзе прадукавалася піва.

У Зябках гасцей зацікавіў стары млын Рафаіла Ітмана. Яшчэ і сёння ёсць людзі, якія памятаюць мясцовага «капіталіста» Ітмана. Захавалася з дзясятак прыгожых местачковых дамоў з часоў яўрэйскіх Зябак. Самога Рафаіла Ітмана акупанты расстралялі, пахаваны на старых яўрэйскіх могілках у Плісе. Туды мы і накіраваліся.

На ўездзе ў Плісу, дзе знаходзіцца помнік і пахаванне ахвяраў пліскага гета, не гледзячы на выходны дзень (субота), сустрэў сам старшыня Пліскага сельсавета Васіль Мікалаевіч Пліско. Прозвішча, як для кіраўніка Пліскага сельсавета, заўважым, дужа сімвалічнае. Сам старшыня пакінуў вельмі прыемнае ўражанне, добра ведае свае мясціны, увесь час знаходжання дэлегацыі ў Плісе, быў выдатным экскурсаводам па колішнім мястэчку. Наведалі мы старыя яўрэйскія могілкі. Іда Шэндаровіч лёгка чытала незразумелыя беларусам надпісы на іўрыце, што былі адзначаныя на надмагільных камянях.

У музеі Пліскай СШ, у экспазіцыі, яўрэйская тэматыка прадстаўленая дастаткова. Выдатную экскурсію па музею правяла педагог школы Лілія Радзівонаўна Думшанка. Іда Шэндаровіч запісала гістарычныя сведчанні з вуснаў Ліліі Радзівонаўны. Аляксандра Ліціна, фатографа і журналіста, зацікавілі пісьмы з фронту, якія у музеі нямала. Старшыня сельсавета дапамог у пошуку старажылаў, якія памятаюць даваенную Плісу, дзе амаль палова жыхароў была яўрэямі. Ад яўрэйскай Плісы на сёння засталося ўсяго пару дамоў, ды падмуркі і прыступкі ад пабудоў знішчанага мястэчка.

Між іншым, Пліса чакае свайго найноўшага адраджэння і звязвае гэта з пабудовай санаторнай установы на беразе возера Пліса. Спонсары ўжо ўклалі вялікія сродкі ў рамонт школы – усе вокны заменены на вокны ПВХ.

*– Мы б такіх грошай, каб не спонсары, ніколі б не знайшлі,*– радуецца старшыня сельсавета. *– Пасля завяршэння будоўлі абяцаюць укласці сродкі і ў інфраструктуру Плісы.*

Галубічы былі канцовай мэтай нашай паездкі, куды завіталі ўжо пад вечар. Ад боку Падсвілля – брацкая магіла і помнік ахвярам апошняй вайны. Усе прозвішчы і імёны на помніку – хрысціянскія. Аднак, ёсць сведчанні, што ў Галубічах, якія да вайны таксама ледзьве не напалам ўяўлялі сабой яўрэйскае мястэчка, былі вялікія ахвяры сярод яўрэйскага насельніцтва. Між тым на помніку яны не адзначаныя. А ў прадстаўнікоў Фонду, маецца спіс з 32 прозвішчаў яўрэяў, якія былі расстраляныя акупантамі ў Галубічах. Дзе яны пахаваныя? І, дарэчы, Галубічы – сястра Хатыні, толькі спаленыя Галубічы ізноў паўсталі з попелу пасля вайны.

Сустрэча ў сельсавеце. Так, пра расстрэлы яўрэяў старшыня сельсавета Пётр Макаравіч Супранёнак ведае. Ведае і месца расстрэлаў – Рынкавая плошча. Усе гэтыя звесткі базіруюцца на раней запісаных успамінах. Мы падышлі да Рынкавай плошчы – яна і цяпер незабудаваная, хаця й мала ўжо на рынак падобная, абнесеная агароджай. Так, тут расстрэльвалі… Але, усё ж, дзе пахаваныя ахвяры расстрэлаў? Тут, альбо разам з хрысціянамі, у брацкай магіле, пры ўездзе ў Галубічы ад боку Падсвілля? Адзіная са старых жыхарак, да якой мы падышлі, мала што памятае, бо была ў тыя часы малой, памятае – расстрэльвалі на Рынку… Ва ўсялякім разе спіс загінулых ахвяраў на помніку ў Галубічах можна дадаць. На колішнім рынку – паставіць памятны знак.

***

Пару дзесяцігоддзяў таму на тэму Халакосту ў нашым краі было накладзенае негалоснае табу. Нібыта і не было масавых расстрэлаў людзей яўрэйскай нацыянальнасці. Тут, скажам так, – не толькі праблема ў тагачаснай уладзе, але і праблема ў саміх людзях, якія перажылі вайну. Сведкі не хацелі, баяліся размаўляць на гэтую тэму. І па простай прычыне – усіх іх немаль, хоць і пад прымусам, ганялі капаць магілы для яўрэяў. Пасля расстрэлу – закопваць. Даведаюцца савецкія ўлады, крый Божа, хоць і пасля вайны – расстраляюць самога ці пасадзяць у турму, як памагатага фашыстаў. Ды й згадваць такія жахі ізноў, якія бачыў сам навочна, што зямля ў магілах «дыхала» – ніхто не хацеў... Там – твае суседзі, знаёмыя, добрыя людзі, з якімі штодня вітаўся, прасіў некалі ў пазыку...

***

Усцешна тое, што ў гады незалежнасці Беларусі, усе месцы масавых пахаванняў, ахвяраў Халакосту, добраўпарадкаваныя, пастаўленыя помнікі. У Глыбокім, Празароках, Зябках, Плісе і Галубічах, разумеюць і памятаюць – гэта частка нашай шматпакутнай гісторыі.



**Сустрэча ў Празароцкай школе. Цікавая экскурсія ў школьны музей, дзе адлюстраваная эпоха колішняга яўрэйскага мястэчка Празарокі. Шмат чаго з гісторыі тых часоў апавяла настаўніца гісторыі Марыя Адольфаўна Сулімава (злева).**



**Празарокі. Местачковая забудова канца XIX-пач.XX ст. Дом тамтэйшага "алігарха", г.зн. самага багатага яўрэя, Янкеля. Шкада, дом цяпер абшылі пластыкам і ён згубіў былую старадаўнюю рамантычнасць.**



**Пліса, музей Пліскай СШ. Іда Шэндаровіч (злева) са слоў педагога Ліліі Радзівонаўны Думшанка запісвае аповяд аб гісторыі яўрэўскага перыяду мястэчка Пліса.**

# Яднанне па-літоўску

## У Вільні ў мінулыя выхадныя прайшоў "Кірмаш народаў"



Сяргей з Віцебска каля сваёй інсталяцыі.

**Дзе яшчэ можна пабачыць магнітыкі з кіраўніком Беларусі, што размясціліся на стэндах побач з гербам "Пагоня"? Толькі ў Вільні. Побач прадаюцца аднарублёўкі з зайчыкам, на якіх напісана "Я быў у Беларусі". Такія купюры хадзілі ў дзевяностых гадах ужо мінулага стагоддзя, шмат хто з маладзейшага пакалення іх нават не памятае.**

**■ Алена Міцкевіч, Зміцер Лупач**

З неба капае невялікі дождж, ад чаго брук на праспекце Гедыміна, дзе праходзіць кірмаш, блішчыць яшчэ больш прывабна.

На Шостым кірмашы Народаў свету акрамя літоўцаў можна пабачыць і армянаў, і грузінаў, і караімаў, і рускіх, і ўкраінцаў. Мы, вядома ж, захацелі адшукаць беларусаў. Ідзём праз гандлёвыя рады, якія расцягнуліся на пару кіламетраў. Чаго тут толькі няма! І гарбата з выпечкай, і медавуха, і піва, і знакамітыя літоўскі хлеб, і рыба, а таксама біжутэрыя, карціны, інсталяцыі, вырабы народных майстроў. Ад паху мяса і кілбас цякуць слюні. Проста на кірмашы гатуюцца розныя стравы, прычым не толькі з літоўскай кухні, але і армянскай, грузінскай, караімскай…

Першага беларуса сустракаем даволі хутка. Ён стаіць на пачатку гандлёвых радоў з боку катэдры. У яго цікавая інсталяцыя: вядро, якое стаіць на трох ножках і абвешанае магнітыкамі. Наверсе – антэна для сувязі з космасам, унізе – "вечны" рухавік. На выгляд усё выглядае неяк па-дзівацку, але гледзячы на манеткі, якія прахожыя кідалі знізу вядра, гэта інсталяцыя людзям падабаецца і прыносіць гаспадару нейкі прыбытак. Гаспадар гэтай інсталяцыі стаяў побач у лётным шлеме, акулярах і чорных берцах. Ён прадставіўся Сяргеем з Віцебску. Зямляк!

Падыходзім, знаёмімся.

**- *Сяргей, якія ў вас ўражанні аб кірмашы?***

*- Самыя найлепшыя. Акрамя цікаўнай сувенірнай прадукцыі тут былі прыемныя хлопцы музыканты, яны нядаўна сышлі, але вельмі прафесійна працавалі. Розныя канструкцыі, фактурныя, вялікія радуюць вока, ды і з надвор'ем, я лічу, пашанцавала.*

**- *А як вы ставіцеся да ўкраінцаў, да расейцаў, якія таксама прысутнічаюць тут як ўдзельнікі?***

- Я да ўсіх стаўлюся абсалютна *добра, незалежна ад таго з Расіі чалавек, Афрыкі, Францыі ці Егіпта. На мой погляд, да ўсіх людзей трэба ставіцца самым найлепшым чынам. Могуць быць нейкія палітычныя рознагалоссі, але на ўзроўні простых людзей такіх рознагалоссяў не павінна быць у прынцыпе. Асабіста я добра стаўлюся да ўсіх людзей незалежна ад іх поглядаў, нацыянальнасці і веравызнання.*

Дзякуючы размове, даведваемся, што на кірмашы ёсць яшчэ адна дэлегацыя беларускіх рамеснікаў. Сяргей падказвае, як іх знайсці. Ісці трэба ў іншы канец праспекта. Ідзём. Па ўсёй даўжыні сустракаем толькі траіх паліцэйскіх. Прычым адзін з іх перакусваў з бутэлькай піва. Гэта ў іх не забараняецца. Наогул, нягледзячы на вялікую колькасць піва, п'яных не назіраецца.

Ну і казка для беларускага фатографа. Можна хадзіць з вялікім апаратам, фоткаць каго заўгодна і колькі заўгодна, і ніхто ў вас не спытаецца: "А чыво вы здзесь снімаеце, а ў вас акрыдзітацыя есць?". Наогул, на кірмашы адчуваецца дух свабоды, відаць, што ніхто нікога не прымушаў у ім удзельнічаць. Хто хоча лепш прадацца, той і афармляе сваё места ў адпаведнасці са сваім густам. Ёсць і музыкі, якія прыйшлі сюды паказаць сваё майстэрства і заадно зарабіць грошай, і мастакі, якія тут жа малююць карціны.

Прадстаўнікі розных народаў стаяць побач, цяжка адрозніць, дзе тут літоўцы, дзе рускія, дзе ўкраінцы. Няма традыцыйнага для нас конкурсу падвор'яў, наогул, няма ідэолагаў. Нацыянальная ідэя ёсць, а вось ідэолагаў няма. У нас жа чамусьці наадварот.

Знаходзім беларускую дэлегацыю. Дзяўчаты прыехалі з Віцебска і Оршы. Пытаемся, ці бяруць магнітыкі з нашым кіраўніком. Адказваюць, што пакуль не вельмі.

**- *Як вам кірмаш, што падабацца, што не падабаецца?***

*- Мне вельмі падабаецца Вільнюс. Падабаюцца работы народных майстроў, што тут прадстаўлены. Ну і, вядома, сама атмасфера, вадары, музыка, вясёлыя асобы.*

**- *А як да вас ставяцца?***

*– Вельмі душэўна. Дыскрымінацыі ніякай няма. Зразумела, што людзі гавораць па-літоўску, але калі ты кажаш, што прыехаў з Беларусі, імкнуцца перайсці на рускую.*

*Мне падабаецца, калі ў людзей добры настрой, асабліва калі яны шпацыруюць сем'ямі. Такія мерапрыемствы аб'ядноўваюць людзей, як розныя сям'і, так і розныя народы.*



Гандлёвыя рады расцягнуліся на пару кіламетраў па праспекце Гедыміна. Для кожнага на кірмашы знайшлася свая рэч.

Сама паездка сябе не акупляе па грошах. А ездзяць яны таму, што... Тут дзяўчыны ўпадалі ў задуменнасць і пачыналі казаць словамі з прэс-рэлізу пра яднанне народаў, культурны абмен і іншыя пафасныя вызначэння фразы «сябе паказаць - іншых паглядзець». Працсей кажучы, рамеснік павінен выстаўляцца, рамеснік павінен ездзіць, прадаваць, развівацца.

У праграме цяперашняга кірмашу - мерапрыемствы Дзён культуры Гданьска, свята мастацтваў «Кольцы дружбы», танцы народаў свету, Міжнародны фестываль вулічных тэатраў «Мазаіка», вогненная фіеста «Круг», адкрыты чэмпіянат Літвы па грылю, «Ціхая дыскатэка» і шмат іншых прыгожых, але незразумелых словазлучэнняў.

Не ўтрымліваемся ад спакусы купіць што-небудзь з гэтай смакаты. Кошты ніжэйшыя за беларускія, а вось якасць мясных вырабаў вышэйшая. І не дзіва, тут жа прыватнікі. Зробіш дрэнна – не купяць. Праўда, шмат купляць баімся, а раптам мытня не дазволіць правесці. Але, забягаючы наперад, скажам, правезлі.

Успамінаем, як у нас некалі пужалі, як дрэнна ў Літве, як там пазарасталі палі, параўноўваем. Высновы напрошваюцца самі сабой.Усё ж добра, што ў Літве кіруюць не выпускнікі Вялікіх Лукаў і Горак. Канешне, шкада, што Вільня не ў складзе Беларусі і ўжо, відаць, ніколі і не будзе. А з іншага боку, калі б яна была ў нашай краіне, ці захавалася б гэта ўсё?

Сустракаем Андруся, нашага земляка, які ўжо сем гадоў стала жыве ў Вільні. Ён кажа, што ў Вількі самы вялікі па плошчы стары горад ува ўсходняй Еўропе. Што-небудзь будаваць тут забаронена. Вядома, дагледаць такую спадчыну каштуе шмат грошай і ў першыя гады пасля крызісу адчуваўся іх недахоп. Зараз сітуацыя мяняецца, шмат дзе стаяць рыштаванні, ідзе рэстаўрацыя. А такія мерапрыемствы, як гэты кірмаш, прыцягваюць турыстаў і дазваляюць гораду зарабіць дадатковыя сродкі.

А наконт яднання народаў… Мы не змаглі вылучыць украінцаў на фоне літоўцаў. Ды і беларусаў б не знайшлі, калі б Сярога не падказаў. Не выдзяляемся мы сярод еўрапейцаў.

Пабольш бы нам такога яднання. І, магчыма, адны навучацца мець зносіны з навакольным светам без аўтаматаў і зялёных чалавечкаў. А іншым можна будзе праязджаць на свята на роварах. А можа нават і фоткаць вялікім фотаапаратам.



Сяргеева вядро.





Дзяўчаты з Беларусі прадаюць сувеніры.

■ Цынковіч М.А.,
*старэйшы інспектар ДПС АДАІ Глыбоцкага РАУС*

# Пешаходы і вадзіцелі! Будзьце ўзаемаветлівыя!

**З 15 да 25 верасня 2014 года на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь праводзіцца рэспубліканская прафілактычная акцыя “Бяспечны пераход”.**

У наш час праблема “вадзіцель-пешаход” у сутнасці, ператварылася ў праблему агульначалавечых узаемаадносін.

Нярэдка наезд на пешаходаў у горадзе здзяйсняецца ў той момант, калі пешаходы ідуць па праезнай частцы. І тады вадзіцель павінен быць максімальна асцярожны і ўважлівы, ведучы машыну ў крайнім правым шэрагу. Зніжэнне хуткасці і гатовасць да экстранага тармажэння – гэта адзіныя гарантыі, якія прадухіляюць наезд на пешахода.

У месцах, дзе на асобных участках вуліц адсутнічаюць тратуар і вонкавае асвятленне, пешаходы змушаныя хадзіць па праезнай частцы. У гэтым выпадку трэба даць параду вадзіцелям: трымацца далей ад краю праезнай часткі.



Ёсць яшчэ адзін канфлікт, які часта ўзнікае паміж вадзіцелямі і пешаходамі. Вадзіцель у вызначаных месцах павінен саступіць дарогу пешаходам і веласіпедыстам, чаго на практыцы амаль ніколі не здараецца. У дрэннае надвор’е, калі пешаходы спяшаюцца атуліць сябе ад марозу, ветру, снегу ці дажджу, яны забываюць пра асцярожнасць на дарозе. Падняты каўнер, нізка апушчаная шапка, парасонік абмяжоўваюць агляд і не дазваляюць правільна ацэньваць дарожную сітуацыю.

Калі па праезнай частцы з вашага боку ідзе пешаход і вам трэба раз’ехацца з сустрэчным транспартам, прытармазіце і, пры неабходнасці, спыніцеся, каб не дапусціць наезду. Складаная сітуацыя можа паўстаць і ў тым выпадку, калі пешаход ідзе насустрач вашай машыне па процілеглым боку дарогі, а вам неабходна здзейсніць аб’езд перашкоды ці абгон. У такім разе варта на час устрымацца ад небяспечнага манеўру ці зменшыць хуткасць руху.

Дзеці – гэта самая небяспечная і непрадказальная катэгорыя пешаходаў. Пра гэта сведчыць і аналіз аварыйнасці. Сустракаючы на сваім шляху дзіцяці, кожны вадзіцель сам вырашае, як яму дзейнічаць, каб паспець прадухіліць памылкі, якія па сваёй непрактыкаванасці можа здзейсніць маленькі пешаход. Нават у тым выпадку, калі дзіця ідзе побач з дарослым, патрабуецца павышаная ўвага. Глядзіць ён у бок ці не, знаходзіцца на краю тратуара ці на астраўку бяспекі – у любым выпадку неабходна трымаць дзяцей у поле зроку, пры неабходнасці змяншаць хуткасць і быць заўсёды гатовым да экстранага тармажэння ці іншаму манеўру. Усе гэтыя меры, хоць і не могуць даць поўнай гарантыі пазбегнуць наезду, дазволяць значна паменшыць цяжар яго наступстваў.

# У Беларусі не ўвядуць збор за праезд па платных дарогах легкавых аўто

**У Беларусі пакуль не збіраюцца ўводзіць збор за праезд па платных дарогах для легкавых аўтамабіляў, паведаміў намеснік міністра транспарту і камунікацый Аляксей Аўраменка ў эфіры канала Беларусь 1. Паводле яго слоў, гэтае пытанне пакуль не разглядаецца. У краіне 1189 кіламетраў платных дарог, а неўзабаве платным стане ўчастак дарогі М5 – ад Жлобіна да Гомеля.**

У 2015 годзе на фінансаванне дарожнай гаспадаркі плануецца вылучыць 11,2 трлн рублёў (140% да ўзроўню 2014 года), будзе актыўна будавацца другая кальцавая дарога вакол Мінска на ўчастку ад аўтадарогі М3 Мінск-Віцебск да М6 Мінск-Гродна і шэраг іншых аб’ектаў, распавёў Аляксей Аўраменка.

Як адзначыў намеснік міністра, Беларусь да канца года разлічвае атрымаць крэдыт на суму 250 млн долараў з Сусветнага банка на рэканструкцыю аўтамабільнай дарогі М6. У далейшым будзе абмяркоўвацца пытанне павелічэння сумы крэдыту, дадаў ён.

***telegraf***




# У Беларусі ўстаноўлены месячны тэрмін на засяленне ў пабудаваныя шматкватэрныя дамы

**У Беларусі ўстаноўлены месячны тэрмін на засяленне грамадзян у пабудаваныя шматкватэрныя дамы. Такая норма вызначана распараджэннем прэм’ер-міністра № 270р ад 20 верасня 2014 года.**

Як паведамляе прэсслужба ўрада, засяліцца ў месячны тэрмін з дня прыёмкі шматкватэрнага жылогадомаўэксплуатацыю змогуць грамадзяне, якія ў поўным аб’ёме разлічыліся за выкананыя работы. Пры гэтым “невыкананне асобнымі грамадзянамі ўказаных разлікаў не можа з’яўляцца падставай для адмовы ў засяленні іншым грамадзянам, якія цалкам разлічыліся за выкананыя работы па будаўніцтве поўных жылых памяшканняў у шматкватэрным жылым доме”, сказана ў распараджэнні.

Замоўцы (забудоўшчыкі) шматкватэрных жылых дамоў павінны ў тэрмін, які не перавышае адзін месяц да запланаванай даты прыёмкі іх у эксплуатацыю, скласці дагаворы з тэрытарыяльнымі арганізацыямі па дзяржаўнай рэгістрацыі нерухомай маёмасці, правоў на яе і здзелак з ёй аб правядзенні тэхнічнай інвентарызацыі шматкватэрных жылых дамоў.

У месячны тэрмін з дня прыёмкі дома ў эксплуатацыю павінен быць праведзены комплекс мерапрыемстваў, неабходны для засялення грамадзян у пабудаваныя жылыя памяшканні і выдачы дакументаў для дзяржаўнай рэгістрацыі права ўласнасці на іх.

Забяспечыць выкананне пералічаных дручэнняў павінны аблвыканкамы і Мінгарвыканкам сумесна з Мінжылкамгасам, Мінэнергетыкі, Мінсувязі, Мінбудархітэктуры, Дзяржаўным камітэтам па маёмасці.

Мінжылкамгасу і Дзяржкаммаёмасці даручана каардынаваць працу і праводзіць аналіз выканання распараджэння прэм’ер-міністра. У Савет міністраў будзе штомесяц падавацца інфармацыя пра ход засялення запланаваных да эксплуатацыі ў 2014 годзе шматкватэрных жылых дамоў.



Зацікаўленым ведамствам даручана да 1 кастрычніка гэтага года ўнесці прапановы аб карэкціроўцы заканадаўства, уключаючы ведамасныя нарматыўныя прававыя акты, з улікам даручэнняў, якія змяшчаюцца ў распараджэнні прэм’ер-міністра № 270р ад 20 верасня 2014 года.

Персанальная адказнасць за выкананне гэтага распараджэнняўскладзена на старшыняў аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама.

***Аляксей Арэшка, БелаПАН.***

# Беларусь выплаціла 82 млн. долараў па крэдыце МВФ

**Беларусь зрабіла чарговы плацеж у межах пагашэння доўгу па крэдыце Міжнароднага валютнага фонду.**

“22 верасня 2014 года Рэспубліка Беларусь у мэтах выканання сваіх абавязацельстваў па крэдыце “стэнд-бай” МВФ ажыццявіла чарговае пагашэнне асноўнага доўгу ў памеры 54,7 млн. СДР (эквівалентна 82,0 млн. долараў ЗША)”, — гаворыцца ў паведамленні Мінфіна.

Пяць траншаў крэдыту ў межах праграмы стэнд-бай на 3,46 млрд. долараў Беларусь атрымала ад МВФ у 2009—2010 гадах. Асноўны пік выплат прыпадае на 2013—2014 гады, калі Беларусі давядзецца вярнуць большую частку пазыкі. Летась выплаты Беларусі па крэдыце МВФ перавысілі 1,6 млрд. долараў ЗША.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН.*

# ААН: Для барацьбы з наступствамі змянення клімату Беларусь павінна акцэнтаваць увагу на энергетыцы і транспарце

**Для зніжэння ўплыву наступстваў змянення клімату Беларусь павінна, першым чынам, акцэнтаваць увагу на працы ў сферы энергетыкі і транспарту, заявіў на прэс-канферэнцыі 19 верасня пастаянны каардынатар ААН, пастаянны прадстаўнік Праграмы развіцця ААН у Беларусі Санака Самарасінха.**

Пры гэтым ён адзначыў, што ААН аказвае Беларусі падтрымку ў зніжэнні аб’ёму выкідаў парніковых газаў і цяпер рэалізуецца шэраг сумесных праектаў, скіраваных на павышэнне энергаэфектыўнасці, выкарыстання ўзнаўляльных крыніц энергіі, а таксама эфектыўнасцітранспартных механізмаў.

Паводле слоў Самарасінхі, адной з крыніц выкідаў парніковых газаў у Беларусі з’яўляюцца тарфянікі і ў рамках сумесных праектаў у краіне былі праведзеныя аднаўленчыя работы на тэрыторыі 28 тыс. га тарфянікаў, што дазволіла скараціць аб’ём выкідаў вуглякіслага газу на 330 тыс. тон у год.

Цяпер у Беларусі рэалізуецца пілотны праект па будаўніцтве эксперыментальных энергаэфектыўных будынкаў, а таксама праекты па выкарыстанні энергіі ветру і зніжэнні выкідаў парніковых газаў у транспартнай галіне, адзначыў кіраўнік прадстаўніцтва ААН. Неўзабаве, паводле яго слоў, у Беларусі плануецца пачаць рэалізацыю ініцыятывы, скіраванай на развіццё“зялёнайэканомікі” ў сферы абыходжання з адходамі, выкарыстання водных рэсурсаў, захавання біяразнастайнасці і развіцця аграэкатурызму. На рэалізацыю праекта Еўрасаюзам было выдзелена 5 млн. еўра, агенцтвам па рэалізацыі выступіць ПРААН.

23 верасня ў Нью-Ёрку адбудзецца саміт ААН па клімаце, у якім возьмуць удзел каля 60 кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў розных краін.

Мэта саміта — заклікаць увесь свет узмацніць меры па зніжэнні выкідаў парніковых газаў у атмасферу, а таксама забяспечыць жыццеўстойлівасць і адаптацыю большасці краін да змянення клімату, сказаў Самарасінха. Па выніках саміта, адзначыў ён, плануецца заключыць глабальнае пагадненне аб недапушчэнні павышэння сярэдняй тэмпературы паветра больш чым на 2 градусы Цэльсія.

*Анастасія Салановіч, БелаПАН*

